Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь: якой ёй быць? (Чытайце на 4-й стар.)

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадо...
Якуб КОЛАС

№ 96 (4451)

6 снежня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

Народная Воля

**10 снежня – Міжнародны дзень правоў чалавека**
## ПРАВЫ МОЖА БАРАНІЦЬ КОЖНЫ
*Чалавек, яго правы і свабоды – найвышэйшая каштоўнасць*
Спецыяльны праект «Народнай Волі» чытайце на 5-й і 6-й стар.

# Заўтра ў Сочы павінна адбыцца сустрэча Дзмітрыя Мядзведзева і Сяргея Румаса, а 7 снежня пройдзе сустрэча Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА



## Мядзведзеў – Беларусі: Не трэба баяцца скарачэння суверэнітэту

*Інтэграцыю Расіі і Беларусі трэба захаваць і знайсці развязкі па ўсіх праблемных пытаннях, заявіў сёння прэм’ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў.*

«Нам трэба зрабіць усё, каб інтэграцыя захавалася. Ёсць складаныя тэмы, звязаныя з энерганосьбітамі, з цэнамі, кожная краіна хоча дамагчыся пэўных ільгот і пераваг для сябе, але я ўпэўнены, што развязкі тут можна знайсці і на ўзроўні ўрада, і на прэзідэнцкім узроўні, калі гэта спатрэбіцца», – цытуе яго ТАСС. – Любая інтэграцыя, нагадаю простую юрыдычную ісціну, – гэта частковае памяншэнне суверэнітэту. Мы таксама свой суверэнітэт часткова зменшылі, калі аб’ядналіся ў Еўразійскі саюз».

Расійскі прэм’ер таксама адзначыў, што ўзровень інтэграцыі паміж Беларуссю і Расіяй вельмі высокі, нягледзячы на эмацыйны фон.

РЭАКЦЫЯ

## Сёння на Пуціна антыбеларускі ціск вельмі моцны...

*Праца над праграмай дзеянняў па паглыбленні інтэграцыі ў рамках Саюзнай дзяржавы і пакетам «дарожных карт», а таксама дамовамі па адчувальных для абодвух бакоў пытаннях знаходзіцца на завяршальнай стадыі. Пра гэта А.Лукашэнка паведаміў у звароце да дэпутатаў, піша БЕЛТА.*

У той жа час кіраўнік дзяржавы акцэнтаваў увагу, што пакуль не вырашаны шэраг прынцыповых пытанняў, у прыватнасці па газе і нафце.

«Нават элементарнае пытанне не вырашана па бруднай нафце. А мы ж правалілі ВУП у асноўным з-за нафтавых праблем», – адзначыў кіраўнік дзяржавы.

«Сёння на прэзідэнта Пуціна ціск вельмі моцны. І прытым ужо з блізкага атачэння, антыбеларускага», – цытуе БЕЛТА Лукашэнку.

ДАСЛОЎНА

## Трэба захаваць незалежную краіну!



*У Беларусі неабходна захаваць суверэнную незалежную дзяржаву.*

*«Мы стварылі першую ў гісторыі незалежную дзяржаву. Але трэба яе захаваць»*, – цытуе БЕЛТА словы А.Лукашэнкі на нарадзе з актывам Мінскай вобласці.

Ён выказаў упэўненасць, што ў будучыні будуць важныя не столькі прыродныя рэсурсы, якімі валодае тая ці іншая краіна, колькі інтэлектуальны патэнцыял, узровень адукацыі.

*«Нафта і газ сыходзяць. Мазгі будуць галоўнымі»*, – сказаў кіраўнік дзяржавы.

Лукашэнка таксама выказаўся за тое, каб ва ўладу прыходзіла новае пакаленне: *«Каб мы спакойна маглі, гледзячы на сваіх дзяцей, якія будуць кіраваць гэтай краінай (я не пра сваіх дзяцей кажу, мае дзеці не будуць кіраваць краінай, гэта я вам паабяцаў)...*

*Каб нашы дзеці жылі ў гэтай краіне і радаваліся, што мы ім падарылі гэтую суверэнную і незалежную краіну».*

ХТО ЁСЦЬ ХТО

## Адміністрацыю прэзідэнта ўзначаліў генерал-маёр


Ігар Сяргеенка.


Наталля Качанава.

*Аляксандр Лукашэнка прызначыў кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта Ігара Сяргеенку, а яго наменікам – Вольгу Чупрыс.*

Да нядаўняга часу Ігар Сяргеенка быў першым наменікам старшыні КДБ Беларусі, а доктар юрыдычных навук, прафесар Вольга Чупрыс працавала ў БДУ на пасадзе прарэктара па вучэбнай працы і адукацыйных інавацыях.

Ігар Пятровіч Сяргеенка нарадзіўся 14 студзеня 1963 года ў вёсцы Сталіца Шаркаўшчынскага раёна Віцебскай вобласці. Ён мае дзве вышэйшыя адукацыі – з адзнакай скончыў гістарычны факультэт БДУ імя У.І.Леніна, а таксама Акадэмію кіравання пры прэзідэнце.

Як напісана ў афіцыйнай біяграфіі, у органах дзяржбяспекі служыць з 1998 года. У лютым 2007 года атрымаў генеральскія пагоны.

Да таго як стаць першым наменікам старшыні КДБ, узначальваў упраўленне КДБ па Магілёўскай вобласці. Аднак у прэсе адзначалася, што Сяргеенка праславіўся працай не ў Магілёве, а ў Гродне. У 2008 годзе менавіта пад яго кантролем праходзіў працэс прызнання экстрэмісцкімі кніг «Лісты з лесу» («Лісты зь лесу») Паўла Севярынца, «Выпадковы прэзідэнт» Святланы Калінкінай і Паўла Шарамета, а таксама газеты польскай меншасці «Глас знад Немна».

З відаў спорту зімой аддае перавагу лыжам, летам – лёгкай атлетыцы.

Ігар Сяргеенка жанаты, мае дваіх дзяцей.

ТЫМ ЧАСАМ

## Хто яшчэ прызначаны ў Савет Рэспублікі?

*Савет Рэспублікі складаецца з 64 чалавек. 56 былі абраны 7 лістапада, восем чалавек прызначае Лукашэнка.*

Учора былі прызначаны чатыры чалавекі: **Наталля Качанава**, памочнік па Магілёўскай вобласці, былы віцэ-прэм’ер **Міхаіл Русы**, былы губернатар Мінскай вобласці **Анатоль Ісачанка** і пасол у Егіпце **Сяргей Рачкоў**.

**Аліна ВЕТРАВА.**

ПРЫСУД

## Пакаранне з адтэрміноўкай...

*Другі насмеснік старшыні Браслаўскага райвыканкама прызнаны вінаватым па карупцыйным артыкуле.*

Днямі суд Глыбоцкага раёна разгледзеў крымінальную справу па абвінавачванні 34-гадовага былога намесніка старшыні Браслаўскага райвыканкама **Міхаіла Пліско** ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў.

Як паведаміла прэс-служба абласнога суда, чыноўнік з калегам і яшчэ адным чалавекам дамовіліся прысвоіць грошы, якія выдзеліў Еўрасаюз для аплаты працы каманды па рэалізацыі міжнароднага праекта. У выніку кампанія завалодала грашыма на не менш як 63,7 тысячы рублёў, з іх звыш 14 тысяч тады атрымаў Пліско. Акрамя таго, ён і яго саўдзельнікі фіктыўна афармілі бухгалтараў на міжнародны праект ад ЕС і падзялілі паміж сабой прэміяльныя.

Былы чыноўнік вінаватым прызнаў сябе цалкам і раскаяўся ў злачынстве.

Суд прызнаў Міхаіла Пліско вінаватым у перавышэнні службовых паўнамоцтваў, учыненых з карыслівай зацікаўленасці.

Прысуд: 3,5 года пазбаўлення волі. Аднак на падставе ч.2 арт.77 КК да абвінавачанага ўжыта адтэрміноўка выканання прызначанага асноўнага пакарання на 3 гады. Ён абавязаны на працягу гэтага тэрміну не мяняць месца жыхарства без згоды органа, які ажыццяўляе кантроль за паводзінамі асуджанага, не выязджаць па асабістых справах даўжэй, чым на адзін месяц, за межы раёна месца жыхарства.

Як пісала раней “Народная Воля”, не так даўно суд Глыбоцкага раёна вынес прысуд яшчэ аднаму былому намесніку старшыні Браслаўскага райвыканкама 36-гадоваму **Максіму Чагарыну**. Яго прызналі вінаватым у перавышэнні службовых паўнамоцтваў, учыненых з карыслівай зацікаўленасці, і прыгаварылі на 3 гады 3 месяцы пазбаўлення волі, але, як і ў выпадку з Пліско, з адтэрміноўкай на 2 гады.

Ну а зараз у Віцебскім абласным судзе разглядаецца крымінальная справа экс-старшыні Браслаўскага райвыканкама **Уладзіміра Дранеўскага** і яго жонкі **Алены,** былога начальніка аддзела эканомікі райвыканкама. Дранеўскаму прад’яўлены абвінавачанні адразу па сямі артыкулах Крымінальнага кодэкса.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**



ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

## Министр романсов

По сообщению государственного информационного агентства БЕЛТА, у нас работает министром финансов большой оптимист. Во всяком случае такой вывод можно сделать из его выступления в Совете Республики во время принятия закона о государственном бюджете на 2020 год. Цитируем: «Мы рассчитываем, что среднемесячное увеличение заработной платы составит около 80 белорусских рублей в расчете на одного бюджетника по сравнению со средней заработной платой текущего года. В целом же средняя зарплата бюджетника в следующем году превысит 920 рублей».

В принципе, такому заявлению господина Ермоловича можно было бы только обрадоваться. Если бы не несколько «но».

Во-первых, сам же Максим Леонидович несколько ранее заявил: «Суммарное ухудшение условий для нас оценивается в 1,9 миллиарда рублей в 2020 году. Есть целый ряд негативных факторов, связанных не только с Российской Федерацией и нашими взаимоотношениями в нефтегазовой сфере, но еще и с текущим состоянием внешних рынков, ценами на базовые продукты, которыми торгует Беларусь»

И временное расстояние между этими двумя текстами, исходящими из уст главы белорусского Министерства финансов и распространенными одним и тем же средством массовой информации, – всего четыре дня. 29 ноября господин Ермолович говорит о том, что условия серьезно ухудшились, а 3 декабря, набрав полную грудь воздуха, обещает поднять среднюю зарплату бюджетникам. И это если учесть, что – опять процитируем министра – «бюджет в номинальном выражении остается на уровне текущего года, притом что расходы по консолидированному бюджету должны возрасти на 9,3 процента».

То есть бюджет не увеличивается, расходы по нему возрастают, условия пополнения казны ухудшаются на 9 с лишним миллиардов, но мы полны оптимизма. Впору сопровождать выступления главного финансиста страны гитарным перезвоном, чтобы уж в точности получилось по поговорке: «Финансы поют романсы».

Это первое.

Теперь немного о втором.

Следующий год у нас сильно предвыборный. Очень даже, я сказал бы, предвыборный. Спорить можно о терминах, и то – преимущественно в кругу оппозиции, но факт остается фактом: выйдет к трибуне Палаты представителей неутомимая госпожа Ермошина и со спокойствием, напоминающим о крепости брони и быстроте танков, пообещает провести кампанию в срок и без потерь. А далее все мало-мальски ответственные правительственные лица начнут говорить о том, как решительно улучшится жизнь после переизбрания первого лица страны на очередную каденцию. Будем даже считать, что они будут говорить все это абсолютно искренне. Ну, и господин Ермолович среди них тоже в очередной раз зальется соловьем.

Мы все это уже проходили неоднократно. Особо успешно – в 2010–2011 годах, когда после разгула, с позволения сказать, демократии вдруг с прилавков начал исчезать сахар, поднялась цена на гречку, и разгулявшиеся демократы, вернувшись на некоторое время домой из «американки», внезапно узнали, что жить стало, конечно, намного веселее, но совсем не лучше. При этом все начальники успешно забыли, что они же в своих публичных выступлениях обещали, что улучшение непременно наступит сразу же после выборов и уже практически навсегда. Еще минута – и новое поколение белорусов точно жило бы при коммунизме, если бы все эти обещания исполнились.

Вам не кажется, что сейчас нас ждет примерно то же? Поймите правильно: я вовсе не собираюсь сеять панику, да если бы и хотел, мне главный редактор не позволил бы. Но когда министр финансов сначала говорит о том, что ситуация ухудшилась, а потом блещет оптимизмом, то просто очень хочется знать: где, в каких именно закромах родины – и чьей родины! – отыскал он основания для этого оптимизма спустя, повторюсь, всего четыре дня.

Какому же Максиму Ермоловичу верить – исполняющему жестокий романс об ухудшении бюджета от 29 ноября или же пылкую любовную песнь о благодеяниях по отношению к бюджетникам от 3 декабря? Может быть, за эти четыре дня он успел взять деньги у сотрудников силовых органов и перераспределить их учителям, врачам и низкооплачиваемой части государственных идеологов (они ведь у нас – тоже бюджетники)? Не похоже. Он-то их, наверное, с удовольствием взял бы, но кто же их отдаст? Разве что силовики; у идеологов хрен или редьку отобрать можно, а деньги – дудки! Помните, сколько раз за последние годы у нас сокращали заместителей главы Администрации президента по идеологии? А они всё вырастают и вырастают, как головы у Лернейской гидры, с которой абсолютно безрезультатно пытался некоторое время бороться Геракл. Потом, правда, получилось, но так ведь это – потом.

Народ, конечно, и это вынесет. Хотя в очереди к кассе много чего придется наслушаться. Уже после выборов. Когда соловьиное пение министра финансов утихнет.

ПАЛІТКУХНЯ

## «Спыніць будаўніцтва АЭС – гэта як пад цягнік класціся...»

*Ніводная з палітычных партый не здолее самастойна сабраць 100.000 подпісаў у падтрымку свайго кандыдата ў прэзідэнты. Дэмакратычнай супольнасці трэба як мага хутчэй вызначыцца з фарматам удзелу ў прэзідэнцкай кампаніі і адзіным кандыдатам. Так лічыць палітолаг і журналіст **Аляксандр Класкоўскі.***

– Палітолаг Валерый Карбалевіч не выключае, што, паколькі вымалёўваецца даволі жорсткі сцэнарый прэзідэнцкіх выбараў, улада можа ўвогуле не зарэгістраваць апазіцыйнага кандыдата, – *выказаў Класкоўскі свае думкі падчас пасяджэння экспертнага клуба, прысвечанага вынікам парламенцкай кампаніі.* – І паколькі рэсурсаў у апазіцыі мала, трэба ўжо ўчора было абмяркоўваць, што рабіць далей! Мусіць быць нейкая каардынацыйная пляцоўка. Трэба сапраўды садзіцца за адзін стол разумным людзям і між сабой па гамбургскім рахунку дамаўляцца.

Але, кладучы руку на сэрца, неабходна прызнаць: сёння ніводная партыя паасобку 100.000 подпісў не збярэ. Думаю, нават правацэнтрысцкая кааліцыя пад вялікім пытаннем...

На мой погляд, адзінага кандыдата лепей выбіраць кансэнсусам. І ўжо сёння трэба прэзентаваць гэтага чалавека грамадству. Я скажу, можа, непрыемную рэч, але ніхто з лідараў традыцыйнай апазіцыі на такую ролю не мусіць высоўвацца. Добрыя, разумныя людзі, але іх народ не прыме...

Можа, патрэбны нейкі ўмоўны беларускі Зяленскі – пры ўсёй умоўнасці паралелі, таму што вельмі розныя палітычныя рэальнасці ва Украіне і Беларусі. Зяленскі не радыкалізмам браў, іншым. «Я свой!» – казаў ён.

І адсюль другая праблема – мусіць быць выразнае пасланне да людзей. Трэба сапраўды думаць, пра што гаварыць. Спыніць будаўніцтва АЭС – гэта як пад цягнік класціся. Ці патрабаваць адстаўкі Лідзіі Ярмошынай... На што распыляць сёння рэсурсы і выпускаць пару з катла на такія другарадныя і нерэалістычныя рэчы? Трэба канцэнтравацца на галоўным.

**Марына КОКТЫШ.**

ХОЦЬ СТОЙ, ХОЦЬ ПАДАЙ

# Пришел читатель с жалобой

В общем-то, это обычное дело, «черный хлеб» нашей профессии. В редакцию «Народной Воли» ежедневно пишут, звонят, приходят на прием к главному редактору десятки читателей. Но когда бобруйчанин **Валерий Михайлович Сидоренко** после приветствия достал из пакета свое письмо, весь наш коллектив ахнул. Это была бумажная простынь чуть ли не в человеческий рост. И текст на ней написан (я даже сказала бы, нарисован) от руки, причем печатными буквами – маленькими-маленькими, как детская лапша «Звездочка». Или как муравьи – такие же черненькие букашки. Только литеры на бумаге, естественно, не копошились клубком, а были выстроены очень плотно друг к другу и ровными строчками. В общем, уникальный пример современной каллиграфии.

После нескольких минут онемения мы в редакции, конечно, не удержались от вопроса:

– Вы, наверное, писали свое письмо не один день?

Валерий Михайлович ответил с гордостью:

– Не один месяц!

Что ж, на этом беседу можно было бы закончить, интересоваться сутью жалобы Сидоренко дальше не имело смысла. Но Валерий Михайлович приехал из другого города и жаждал человеческого общения. Он рассказал, что ищет справедливости с 2012 года. Обращался в Следственный комитет и Генеральную прокуратуру, хотел попасть на прием к главе Администрации президента – создавал для них такие же впечатляющие рукописные послания. Но «злые люди» не обращают на его жалобы внимания, и правды он почему-то не нашел…

– Кто же может это прочитать?! Какой человек разберет сии «доисторические» письмена? – не удержалась я от восклицания.

Пожилой человек посмотрел на меня печально: видно, такое он слышал уже неоднократно.

Обижать читателя не в наших правилах, сели разбираться устно: в чем же, по его мнению, проблема жизни? Оказалось, всё довольно предсказуемо: врачи-вредители регулярно выписывают Сидоренко не те лекарства. От этого у Валерия Михайловича, по его твердому убеждению, весь организм пришел в негодность вплоть до паралича и слепоты. Однако приехал-то он из Бобруйска самостоятельно, и письма такими убористыми буквами человек без хорошего зрения, естественно, не напишет. Хотя официальный диагноз у Сидоренко действительно есть и довольно тяжелый: фибромиалгия. Это хроническое заболевание, В.М.Сидоренко имеет 2-ю группу инвалидности. Но чем же здесь поможет редакция «Народной Воли»? И тогда наш читатель, словно заподозрив неладное, поднял пытливый взгляд:

– А вы на чьей стороне?

Сейчас будет шить политику, удрученно подумала я. И предложила единственный, как мне показалось, выход из ситуации:

– А давайте мы напечатаем в газете вашу фотографию с письмом в руках. Вот эта каллиграфия действительно уникальный случай!

Лицо Валерия Михайловича просветлело:

– Спасибо!

В это мгновение я подумала, что, пожалуй, главная проблема нашего читателя из Бобруйска – одиночество, заброшенность. В огромном мире он, наверное, чувствует себя таким же маленьким и скрюченным, как его черненькие буквы-букашки. И его невообразимо причудливые гигантские письмена во все инстанции, во все пределы есть не что иное, как отчаянная попытка обратить на себя внимание. Что называется, вечный зов… И знаете, в такую ловушку может попасть со временем каждый. Ох, старость – не радость.



**Елена МОЛОЧКО.**

Фото Алеся СИВОГО.

ПЕРАСЛЕД

## Павел СЕВЯРЫНЕЦ: «Прыйшоў на суд з «трывожнай торбай»

*У Беларусі пачаліся масавыя суды над актывістамі. Ім прысуджваюць вялізныя штрафы.*

Учора ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска разглядаліся адміністрацыйныя справы ўдзельнікаў перадвыбарных пікетаў і мітынгаў 8 і 16 лістапада.

**Паўла Севярынца** аштрафавалі на 1275 рублёў за перадвыбарную акцыю «Сход вольных людзей», якая прайшла ў сталіцы 16 лістапада.

**Наста Гусева** за ўдзел у «Сустрэчы свабодных людзей», якую арганізаваў блогер NEXTA на плошчы Свабоды ў Мінску 8 лістапада, павінна заплаціць 765 рублёў.

**Андрэй Кудзік** і **Уладзімір Цыгановіч** аштрафаваны на 765 рублёў кожны, **Арцём Чарняк** – на 1275 рублёў.

**Вольгу Нікалайчык** аштрафавалі на 1275 рублёў за тое, што яна раздавала ўлёткі з заклікам прыйсці на акцыю «Сустрэча свабодных людзей» 15 лістапада. У дадатак яе асудзілі 2 снежня за акцыі, якія адбыліся 8 лістапада і 16 лістапада, і вынеслі пастанову аб прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 50 базавых велічынь (1275 рублёў).

За «дробнае хуліганства» штраф па 765 рублёў атрымалі таксама «маладафронтаўцы» **Максім і Дзяніс Урбановічы**.

Суды над актывістамі працягнуцца і сёння, але гэтым разам у судзе Маскоўскага раёна.

– Гэты прысуд павінен быў даць адказ на пытанне: "Ці зацікаўлена сённяшняя ўлада ў масавых пратэстах за незалежнасць?" – кажа **Павел Севярынец**. – І адназначны адказ такі: зацікаўлена. Калі б гэта было інакш, то зараз я сядзеў бы на "сутках".

А паколькі я на свабодзе, то гэта азначае, што ўлада, магчыма, спадзецца выкарыстаць пратэсты за незалежнасць у перамовах з Уладзімірам Пуціным. На кароткі час інтарэсы беларускай улады і беларускай грамадскасці супалі.

**– Пасля суда вас затрымалі…**

– Мяне павезлі ў Фрунзенскі РУУС, каб скласці пратакол па яшчэ адной адміністрацыйнай справе – за заклікі на плошчу. Папрасілі даць тлумачэнні на відэа, і я пад запіс сказаў, што міліцыянеры, якія давалі прысягу абараняць незалежнасць краіны, таксама павінны далучацца да акцый у абарону суверэнітэту Беларусі.

Пасля гэтага я адмовіўся падпісваць пратакол і быў вызвалены. Шчыра кажучы, было крыху нечакана, бо ўжо быў з "трывожнай торбай", якую перад судом заўсёды збіраю на выпадак, калі дадуць не штраф, а некалькі сутак адміністрацыйнага арышту. Гэтым разам абышлося…

**Віктар ШПАК.**

ЗНАЙ НАШИХ!

## Белоруска попала в список лучших бизнесменов по версии Forbes

*Американское издание о бизнесе Forbes составило топ-30 предпринимателей до 30 лет в сфере производства и индустрии. В него попала 27-летняя белоруска Мария Дмитрук, которая родилась в Минске и, будучи подростком, переехала в Сан-Франциско.*



«Иммигрантка из Беларуси Мария Дмитрук стала соучредителем Prodsmart в 2018 году: компания предоставляет ПО для управления производством на базе смартфонов, которое помогает предпринимателям малого и среднего бизнеса производить продукты быстрее, эффективнее и с меньшими затратами. Компания дает небольшим фирмам доступ к типу передового ПО для управления производством, которое используют крупные производители. Prodsmart привлек пять миллионов долларов и планирует, что в 2020 году выручка составит 2,3 миллиона долларов», – цитирует kyky.org то, что написали о белоруске авторы списка Forbes.

Сейчас Мария живет в Калифорнии. Она окончила Гавайский тихоокеанский университет.

ЭКСПЕРЫМЕНТ

## Вяскоўцаў вучаць раздзяляць смецце

*У вёсках Гродзенскага раёна камунальныя службы ўсталявалі кантэйнеры для раздзельнага збору смецця. Пакуль толькі ў некалькіх сельсаветах.*

У Падлабенскім і Сапоцкінскім сельсаветах ЖКГ Гродзенскага раёна абсталявала каля 30 сучасных кантэйнерных пляцовак. Замест металічных бакаў паставілі 148 каляровых ёмкасцяў для розных відаў смецця – паперы, пластыку, шкла і змешаных адходаў. Кошт паслугі па вывазе смецця ад гэтага не змяніўся.

Паводле назіранняў супрацоўнікаў ЖКГ, людзі па-рознаму паставіліся да наваўвядзення. Адны адразу пачалі раздзяляць адходы, другія па звычцы кідаюць усё смецце ў адзін кантэйнер. Амаль пустымі застаюцца кантэйнеры для шкла, паколькі шкляную тару здаюць у прыёмныя пункты.

У некаторых аграгарадках на кантэйнеры давялося вешаць замкі, паколькі вяскоўцы пачалі скідваць туды ўсё бытавое смецце без разбору. Праблемай стала і тое, што людзі прывозяць і пакідаюць на пляцоўках буйнагабарытныя рэчы. І такая практыка стала амаль штодзённай.

Камунальнікі прызнаюць, што задумка з раздзяленнем смецця вясковымі жыхарамі пакуль рэалізоўваецца не вельмі актыўна. Каб людзі пачалі рабіць гэта больш добрасумленна, іх трэба нечым зацікавіць, але пакуль ніхто не прыдумаў чым.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

НЕСТАНДАРТ

# Як гродзенец змагаецца з ямамі на дарогах

*Павел Коўшаль год таму зарэгістраваўся на сайце 115.бел і пакінуў больш як 130 заявак. Аб тым, як гродзенец імкнецца зрабіць свой горад больш камфортным, распавядае наш карэспандэнт.*

*ДАВЕДКА*

*«Мой горад» 115.бел – гэта беларускі партал, які існуе ў выглядзе сайта і мабільнага дадатку і служыць як сэрвіс для адпраўкі грамадзянамі запытаў, якія тычацца жыллёва-камунальных паслуг і гарадской гаспадаркі. Мэта сэрвісу 115 спрасціць працэс узаемадзеяння гараджан і служб ЖКГ.*

*Схема працы партала такая: карыстальнік рэгіструецца на сайце, змяшчае там запыт, які пасля мадэрацыі накіроўваецца ў падраздзяленні гарвыканкама альбо ў гарадскія службы для выканання. Пасля адпраўкі запыту карыстальнік можа бачыць статус яго апрацоўкі і вынік выкананай работы ў фармаце здымкаў «было-стала».*

### «Мне надакучыла трапляць у адныя і тыя ж ямы»

Большасць заявак, якія Павел дасылае на сайт 115.бел, тычацца ям на дарогах Гродна і люкаў, што праваліліся.

*– У нас у сям'і дзве машыны, я плачу адпаведныя страхоўкі і дарожныя зборы, то чаму з-за чужых касякоў мушу яшчэ за свае грошы рабіць рамонт? –* справядліва заўважае Павел. *– Надакучыла трапляць у адныя і тыя ж ямы і выбоіны на дарогах! А люкі, якія прaселі, калдобіны на дарогах ніхто не выпраўляе гадамі. Чаму?*

На сайт 115.бел Павел патрапіў выпадкова, але пагалядзеў, як ён працуе, і пачаў фатаграфаваць усе пашкоджаныя ўчасткі дарог, фіксаваць адсутнасць асвятлення і дасылаць свае заўвагі на рэагаванне. Найперш гэта датычылася дарогі, па якой Коўшаль ездзіць на працу.

*– Спыняюся, раблю здымак з прывязкай да мясцовасці, каб месца было пазнавальным і людзі, якія будуць гэта выпраўляць, маглі зразумець, чаго я ад іх хачу, а потым закідваю гэта ў камп'ютар, –* паказвае Павел. *– На сайце я ўжо зарэгістраваны і таму раблю новую заяўку, стаўлю паметку, да прыкладу «люк прасеў», і размяшчаю здымак. Цяпер яшчэ можна паставіць геаметку, што зручна.*

### Заяўкі выконваюцца ўсяго на 30 працэнтаў

Першую заяўку Павел размясціў на 115.бел 6 лістапада 2018 года. Яна датычылася дарогі на плошчы Дзекабрыстаў у Гродне. Ямы, паводле слоў хлопца, былі сантыметраў па 15, кіроўцам даводзілася выязджаць праз суцэльную лінію на сустрэчную паласу, каб іх аб'ехаць. Яму пісалі ў адказ: заяўкі прыняты, працуем… Але праз некалькі месяцаў яміны разрасліся, іх стала больш.

*– Зімой мне напісалі, што нічога зрабіць не могуць, бо не дазваляе надвор'е, –* згадвае Павел. *– А выканалі заяўку толькі 1 ліпеня 2019 года. І тое, я лічу, толькі таму, што там ужо папросту было немагчыма праехаць.*

Не аднойчы хацелася плюнуць на ўсё гэта і перастаць выстаўляць новыя заяўкі, кажа Павел. Ды яно і зразумела: з амаль 140 пададзеных заявак зараз толькі трохі больш за 30 пазначаны статусам «Выканана».

*– Наколькі я зразумеў, гэтыя сайт носіць толькі рэкамендацыйны характар, а арганізацыі, якія павінны рэагаваць на заяўкі, у большасці выпадкаў не робяць гэтага, –* заўважае Павел.

Але гродзенец не складае рук – кажа, што і надалей будзе выстаўляць заяўкі на сайт. Хаця ён не вельмі задаволены гэтым сэрвісам, але лічыць, што ён прыносіць пэўную карысць.



Павел Коўшаль.

*– Некаторыя заяўкі могуць быць выкананы і на працягу тыдня, –* канстатуе Павел. *– Да прыкладу, гулялі з сям'ёй па мікрараёне «Альшанка», я зрабіў здымкі вулічных ліхтароў, якія не працуюць, і на працягу тыдня замянілі лямпы, разбіты плафон, і ўсё працуе.*

### «Вы, нагружаеце нас непатрэбнай працай»

Актыўная дзейнасць Паўла на сайце, зразумела, выклікае незадаволенасць тых, хто мусіць выконваць ягоныя заяўкі. Так, ён распавядае, што ў адказ тыя ці іншыя службы пішуць: выязджалі на месца, праверылі вышыню люка над асфальтам, і яна адпавядае норме. Маўляў, вы нагружаеце нас непатрэбнай працай.

Павел у сваю чаргу адказвае, што, праехаўшы на машыне, адчувае грукат падвескі, але, паколькі дарога ажыўленая, не можа там спыніцца і правесці замеры. І задаецца пытаннем: чаму ён павінен выконваць гэтую працу за тых, хто атрымлівае за яе грошы?

### «У мяне ёсць магчымасць параўнаць»

Паводле роду сваёй дзейнасці Коўшаль часта бывае за мяжой і можа параўнаць дарогі ў Беларусі і на Захадзе. Паводле яго назіранняў, праблемы з інфраструктурай існуюць у любой краіне.

*– Але справа ў тым, што з праблемамі, якія там узнікаюць, яны спраўляюцца значна лепш, –* упэўнены Павел. *– Апошнім разам быў у Чэхіі. Дарогі там значна лепшыя. У нас летам асфальт плавіцца і ёсць абмежаванні на рух тых жа «цяраў» у дзень. А там едзеш – сонца бліщчыць на дарожнай паласе, і на ёй няма ніякай каляіны, як на нашых дарогах. Усё роўненька, як шкло. А транспарту, паверце, там не менш чым на нашых дарогах.*

Прычына, на думку Паўла, у тым, што многія працы пры будаўніцтве тых жа дарог робіцца ў нашай краіне нядобрасумленна.

*– У Еўропе, калі ты бачыш на дарозе залатанае месца, то, праязджаючы, не адчуваеш, бо асфальт пакладзены ўпоравень з астатнім палатном. А ў нас абавязкова альбо праваліўся, альбо тырчыць. Чаму так?*

### «Жадаючых дапамагаць няма»

Павел займаецца размяшчэннем заявак на 115.бел ужо год, але, кажа, за гэты час да яго ніхто не далучыўся. Толькі адзін чалавек у каментарыях напісаў, што ідэя Паўла яго зацікавіла, і на гэтым усё.

*– Мне здаецца, што людзі папросту не вераць ні сайтам, ні чыноўнікам. Занадта доўга выконваць сваю працу належным чынам лічылася неабавязковым, –* разважае гродзенец. *– Часам бывае крыўдна, што 70 працэнтаў заявак не выконваюцца, але разумею, што кідаць гэтую справу ўжо нельга. Проста хочацца зрабіць лепш, каб камфортней было і мне, і іншым.*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**





Такія здымкі Павел Коўшаль дасылае на сайт 115.бел.

КУЛУАРЫ

# Хто заменіць Рыгора Сітніцу?

*Старшыня Беларускага саюза мастакоў адбыў на пасадзе два тэрміны і сыходзіць. Праўда, гучаць галасы з ідэяй перапісаць статут арганізацыі, каб Рыгор Сітніца ўсё ж такі застаўся. 17 снежня адбудзецца чарговы з'езд Саюза мастакоў, які абяцае быць нясумным.*

– Я больш не збіраюся балатавацца, – *гаворыць пакуль яшчэ дзейны старшыня Саюза мастакоў* **Рыгор Сітніца** «Народнай Волі». – Як кажуць, «*я адплаціў народу, чым моц мая магла*»… Я сапраўды зрабіў для Саюза ўсё, што мог. А далей нехта іншы будзе кіраваць.

Я ўжо даўно не належу сабе: ні ўвечары, ні днём, ні раніцай. Таму крыху адпачну і займуся тым, чым хачу. Хай маладзейшыя, спрытнейшыя прыходзяць. Усё вызначана нашым статутам, які я не збіраюся парушаць.



**– Чым вы ганарыцеся, якіх поспехаў дасягнулі за гады старшынства?**

– Асноўнае дасягненне – за 6 гадоў у нас не адбылося ніводнага скандалу. Усё было ціха, мірна, паважна. І нават ва ўмовах фінансавай нішчымніцы мы нарасцілі наш патэнцыял. Мы перанеслі рэспубліканскія выставы на абласныя пляцоўкі, чаго ніколі не было. Гэта значнае дасягненне! Здолелі пашырыць нашу маёмасць – на паўтары тысячы метраў набылі новы цэх для скульптурнага камбіната. Мы зрабілі шмат розных культурных аб'ектаў, помнікі паставілі…

Саюз працаваў вельмі актыўна, нягледзячы на не вельмі спрыяльныя ўмовы, якія, відаць, далей будуць яшчэ больш неспрыяльнымі. Але трэба вучыцца выжываць у любых умовах, што мы і рабілі.

Ёсць, канешне, адзінкі, якія крытыкуюць нашу дзейнасць. Гэта такія людзі, якія маюць патрэбу заўсёды некага ўкусіць. Сярод тых, хто кідае камяні ў наш бок, няма ніводнага значнага мастака.

**– Вядома, што некаторыя асобы нават Канстытуцыю перапісваюць, каб застацца ва ўладзе. Вам не прыходзіла ў галаву адкарэктаваць статут арганізацыі, каб была магчымасць працягнуць паўнамоцтвы?**

– Мне самому такія думкі не прыходзяць, але ведаю, што падобныя ініцыятывы існуюць.

Мне хапіла двух тэрмінаў. Праўда, хапіла!

Я сыходжу з пасады старшыні саюза, але не ўцякаю з саюза. Я ж шмат гадоў працую не столькі старшынёй арганізацыі, колькі Сітніцам.

**– Рыгор Сямёнавіч, а хто прыйдзе пасля вас? Каго вы асабіста падтрымліваеце? Можа, назавяце імя пераемніка?**

– Я ўбачу сітуацыю на з'ездзе і тады прыму рашэнне, каго падтрымаць, а каго – не. Загадзя нічога сказаць не магу, бо нават не ведаю, хто з кандыдатаў узнікне.

Думаю, жарсці яшчэ ўспыхнуць на самім з'ездзе. Наш саюз аб'ядноўвае асоб, кожная з якіх мае сваё маркаванне і пазіцыю. Таму прыходзьце, нашы з'езды ніколі не бываюць сумнымі!

РАСКЛАДЫ

## Хто прэтэндуе на пасаду старшыні?

*«Народная Воля» пацікавілася, хто з мастакоў будзе балатавацца.*

Пакуль расклады такія: калі верыць кулуарнай інфармацыі, вылучацца плануюць першы намеснік старшыні **Глеб Отчык** – яго падтрымліваюць графікі, мастак **Аляксандр Ксяндзоў**, скульптар **Генадзь Буралкін**, які ўзначальваў Саюз мастакоў у 1990–2001 гадах, а таксама старшыня Віцебскага аддзялення Саюза мастакоў **Святлана Баранкоўская.**

*«На чале саюза павінен быць чалавек, якога добра ўспрымаюць чыноўнікі, добры менеджар, які змог бы дабіцца прэферэнцый, зрушыць эканоміку,* – кажуць у калідорах Саюза мастакоў. – *Можа, нават і не мастак, а мастацтвазнаўца альбо менеджар, які добра арыентуецца ў сучасных тэндэнцыях і ўяўляе, у які бок развівацца».*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Аляксандр КСЯНДЗОЎ: «Цяперашні саюз – рэлікт савецкай эпохі…»

*Вядомы мастак Аляксандр Ксяндзоў – адзін з тых, хто прэтэндуе на пасаду кіраўніка Саюза мастакоў. Аляксандр Ксяндзоў некалі працаваў сакратаром Саюза мастакоў па выставачнай дзейнасці, але гэта яго першы замах на старшынства. «Народная Воля» пацікавілася, з якой праграмай ён плануе вылучацца.*

«Хачу праверыць, ці засталося яшчэ нешта жывое ў нашым саюзе або не, – *гаворыць Аляксандр Паўлавіч*. – На маю думку, нашай арганізацыі патрэбна сур'ёзная рэканструкцыя. Цяперашні саюз – рэлікт савецкай эпохі. І многіх гэта задавальняе. А я хачу зрабіць яго больш сучасным, паставіць на бізнес-рэйкі, заняцца менеджментам. І зрабіць так, каб у Саюзе мастакоў перш за ўсё добра працавала эканоміка. Каб ён зарабляў грошы і каб мастакі ад паспяховай дзейнасці саюза таксама атрымлівалі дывідэнды. Хачу запрасіць сучасных кіраўнікоў, якія валодаюць мовамі, неабходна таксама перабудаваць выставачную дзейнасць, стварыць аддзел маркетынгу, запрасіць на працу мастацтвазнаўцаў, зрабіць акцэнт на міжнароднай дзейнасці, бо зараз яна на нулі.



Я вось яшчэ думаю: чаму пасаду старшыні саюза павінен займаць абавязкова мастак? Мастак – гэта арт-дырэктар. Але кіраваць эканомікай павінен той, хто мае эканамічную ці юрыдычную адукацыю. Я хачу, каб у саюз прыйшлі сапраўдныя топ-менеджары».

ДЛЯ ДАВЕДКІ

*Грамадскае аб'яднанне «Беларускі саюз мастакоў» (БСМ) вядзе сваю гісторыю з 1938 года.*

*6–9 снежня 1938 года адбыўся I з'езд мастакоў Беларусі, на якім быў створаны Саюз савецкіх мастакоў БССР.*

*Надалей творчае аб'яднанне неаднойчы мяняла сваю назву, і ў выніку правапераемнікам Саюза мастакоў Беларусі стаў Беларускі саюз мастакоў.*

*Згодна са статутам, ГА «БСМ» займаецца развіццём беларускага выяўленчага мастацтва, стварэннем і захаваннем нацыянальных мастацкіх каштоўнасцяў.*

*Беларускі саюз мастакоў налічвае звыш тысячы сябраў.*

*З 28 снежня 2013 года пасаду старшыні БСМ займае Рыгор Сітніца.*

**Марына КОКТЫШ.**

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Александр Глеб устроил новогоднюю фотосессию с семьей

*Красивое атмосферное фото выложила в интернет падчерица известного белорусского футболиста.*

*«У нас столько идей, и постепенно мы их превращаем в реальность,* – рассказала Анастасия Губаревич. – *Одна из них была купить всем домашние костюмчики в одном стиле и превратить атмосферу в доме из обычной в праздничную. Мы ходили по разным магазинам, искали одинаковые комплекты. И вот что получилось!»*



Напомним, что Александр Глеб женат вторым браком – это случилось чуть более трех лет назад. Для его избранницы Светланы Губаревич, которая в свое время выиграла конкурс «Супермодель Беларуси», брак также повторный.

У Анастасии и Светланы двое детей. Дочь Светланы от первого брака Александр также называет своей дочерью.

**Вера ВИР.**

СВЕЦКАЕ ЖЫЦЦЁ

# Вера Палякова з сынам трапілі ў казку пра Аладзіна

*Філіп Кіркораў запрасіў беларускую актрысу з сынам на дзень народзінаў сваёй дачкі Алы-Вікторыі. Як нядаўна высветлілася, яны даўно сябруюць сем'ямі.*

*«Было адчуванне, што мы трапілі ў тэлевізар, столькі было вядомых, паважаных мной людзей!»* – падзялілася ўражаннямі Вера Палякова-Макей.



Кіркораў зладзіў для дачкі сапраўдную ўсходнюю казку: дзень нараджэння прайшоў у стылістыцы дыснееўскага «Аладзіна». Рэстаран ператварыўся ў палац Аграбы, на ўваходзе гасцей сустракаў Джафар, а ўнутры іх чакалі ўсе іншыя атрыбуты любімага мультфільма імяніннніцы – чароўная лямпа, Джын, дыван-самалёт, усходнія прысмакі.

Спісу запрошаных пазайздросціў бы любы свецкі прадзюсар – Happy birthday Але-Вікторыі спяваў хор, у які ўвайшлі **Таццяна Наўка, Дзмітрый Пяскоў, Вольга Слуцкер, Лена Пярмінава, Цімаці, Вікторыя Шелягова, Андрэй Малахаў, Юлія Бараноўская, Сяргей Лазараў, Ані Лорак** і яшчэ сотня гасцей. Весела было і дарослым, і дзецям.



Апагеем свята стаў вынас торта ў выглядзе вазы з кветкамі, на якой сядзеў паўлін.

*«З Днём нараджэння дзіўная, далікатная, разумная, гарэзная Ала-Вікторыя!* – напісала Вера Палякова-Макей у сацыяльных сетках. – *Будзь здаровая і шчаслівая! Дзякуй велізарны @fkirkorov за запрашэнне, увагу і любоў».*

**Аліна ВЕТРАВА.**

**На здымках: Сын Веры Паляковай і міністра замежных спраў Беларусі Арцём.**

**Вера Палякова з Філіпам Кіркоравым і дзецьмі.**

ШОУ-БІЗНЕС

## Саша НЕМА: «Адчуваю сябе сапраўдным беларусам!»

*Спявак і аранжыроўшчык прызнаўся ў любові да беларускай мовы.*

«Мне прыемна, што ўсё больш і больш гучыць беларуская мова, асабліва ад моладзі! – падпісаў артыст здымак разам з дзяўчатамі з групы «Лас-Вегас» у вышыванках. – Мне здаецца, што хутка гэта будзе модна! Адчуваю сябе сапраўдным беларусам!

Пабачымся ў навагоднюю ноч на канале АНТ!»



ПЕЧАЛЬНО…

# Юрий ЕЛХОВ: «Неужели чиновники от культуры и кино не нашли времени принести к гробу писателя венок с траурными лентами?..»

*Пару дней назад в одном из ритуальных залов Минска прошла церемония прощания с писателем и драматургом Анатолием Андреевичем Делендиком.*

– Людей было много, даже очень много, – *говорит известный режиссер* ***Юрий Елхов***. – Пришли друзья, коллеги по писательскому цеху и просто почитатели таланта знаменитого белорусского литератора. Не было только ни одного представителя Министерства культуры Беларуси и киностудии «Беларусьфильм».

Позор!

Неужели чиновники от культуры и кино не нашли времени принести к гробу известного белорусского писателя венок с траурными лентами или на худой конец букет алых роз? Ну а напечатать некролог в центральной белорусской газете, принести соболезнование семье и близким покойного – просто были обязаны из элементарных моральных и человеческих соображений! Возможно, они вообще не знакомы с творчеством Анатолия Делендика? Возможно, они просто не знают, кто он такой?

Могу напомнить:

1. Его знаменитая драма «Вызов богам» шла во всех театрах Советского Союза и за рубежом. В то время он был самым знаменитым советским театральным драматургом.

2. По его сценариям снято семь фильмов.

3. За сценарий совместного с Чехословакией фильма «Завтра будет поздно» на Международном кинофестивале в Пльзене Анатолий Делендик получил приз за лучший сценарий и награжден словацкой медалью Яна Налепки.

4. Исторический фильм «Анастасия Слуцкая» (автор сценария Анатолий Делендик) вошел в золотой фонд белорусского кино. Он получил 17 наград на 11 Международных кинофестивалях, в том числе в США и в Китае. Только в белорусском прокате его посмотрело более миллиона зрителей. Ему посвящена статья в Белорусской энциклопедии. Фильм «Анастасия Слуцкая» упоминается также в учебнике «История Беларуси».

5. Издано 16 книг (последняя – сборник «Девицы-красавицы» – вышла в 2013 году).

6. В Белорусском государственном академическом музыкальном театре идет спектакль по пьесе Делендика «Жизнь и смерть Янки Купалы», а в Государственном большом академическом театре оперы и балета – балет «Анастасия» того же автора. В Мозырском, Бобруйском и двух минских театрах до сих пор идут спектакли по пьесам Анатолия Делендика.

7. Заслуженный деятель искусств Республики Беларусь.

8. Награжден партизанскими медалями и медалью Франциска Скорины.

9. Член трех творческих Союзов (писателей, кинематографистов, театральных деятелей) Беларуси и Гильдии сценаристов России.

10. Председатель секции драматургии Союза писателей Беларуси.

Можно было бы перечислять до бесконечности заслуги Анатолия Андреевича Делендика, но думаю, что этого уже достаточно для ликбеза чиновников от белорусской культуры и кино.

Похороны Анатолия Делендика организовывал его сын Андрей. За свой счет. Он был растерян, не знал, к кому обратиться за помощью. Я посоветовал: в Союз писателей. И они действительно подставили плечо – помогли с транспортом, нашли ритуальный зал…

Может, чиновники действительно плохо знают, кто такой Делендик? Ну умер старичок и умер!..

Поистине: «Нет пророка в своем Отечестве!»



*10 снежня – Міжнародны дзень правоў чалавека*

# ПРАВЫ МОЖА БАРАНІЦЬ КОЖНЫ

*Чалавек, яго правы і свабоды – найвышэйшая каштоўнасць*

ЗАЯВА

## «Праваабаронцы за свабодныя выбары» выказваюць пратэст…

17 лістапада 2019 года ў краіне прайшлі выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь сёмага склікання.

Па выніках незалежнага назірання на ўсіх этапах кампаніі мы, прадстаўнікі кампаніі "Праваабаронцы за свабодныя выбары", прыйшлі да высновы, што выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь сёмага склікання ў цэлым не адпавядалі шэрагу ключавых міжнародных стандартаў, а таксама выбарчаму заканадаўству Рэспублікі Беларусь.

Выклікае трывогу тое, што пасля галасавання пачаліся адміністрацыйныя працэсы ў дачыненні да больш як дваццаці актыўных удзельнікаў пратэстных мірных акцый, якія адбываліся ў Мінску ў перыяд электаральнай кампаніі, у тым ліку ў дачыненні непасрэдна да кандыдатаў у дэпутаты, іх давераных асоб, сябраў ініцыятыўных груп.

Мы адзначаем, што пераслед грамадзян за мірную рэалізацыю імі асноўных палітычных і грамадзянскіх правоў у перыяд правядзення выбараў з'яўляецца нічым іншым, як парушэннем правоў чалавека і непрыхаванымі палітычнымі рэпрэсіямі ў поствыбарчы перыяд, і яшчэ больш падкрэслівае недэмакратычны характар сёлетняй электаральнай кампаніі.

У сувязі з гэтым мы, прадстаўнікі кампаніі "Праваабаронцы за свабодныя выбары", выказваем свой пратэст і патрабуем ад улад Рэспублікі Беларусь неадкладнага спынення рэпрэсій у дачыненні да прадстаўнікоў апазіцыйных партый і рухаў.

У чарговы раз заклікаем улады да выканання сваіх абавязацельстваў у галіне правоў чалавека, якія вынікаюць з ратыфікаваных Рэспублікай Беларусь міжнародных нормаў, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах у прыватнасці.

ЛЮСТЭРКА

## Пераслед журналістаў і блогераў не спыняецца…

*2019 год можа падацца адносна спакойным для СМІ. І гэтаму паспрыялі многія фактары. У чэрвені ў Мінску праводзіліся ІІ Еўрапейскія гульні, што вымушала ўлады трымаць марку ды ствараць бачнасць адкрытасці і дэмакратычнасці. А тут яшчэ пачаўся перамоўны працэс паміж Беларуссю і Еўрасаюзам, ЗША.*

*Так, калі за першыя пяць месяцаў года суды 38 разоў штрафавалі журналістаў-фрылансераў за супрацоўніцтва з замежнымі медыямі без акрэдытацыі, то з 31 мая па канец ліпеня такіх выпадкаў наогул заўважана не было. Здавалася, і ў далейшым не будзе ніякіх рэпрэсій. Але дзе там!..*




По стане на 2 снежня 40 разоў журналістаў штрафавалі паводле ч.2 арт.22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, якая прадугледжвае адказнасць за незаконны выраб ці распаўсюджванне прадукцыі СМІ. І гэта ў той час, калі, на думку экспертаў прафесійнай арганізацыі "Беларуская асацыяцыя журналістаў", паводле гэтага артыкула наогул нельга прыцягваць да адказнасці тых, хто напісаў той ці іншы матэрыял, бо прадукцыю СМІ вырабляюць рэдакцыі, а распаўсюджваюць зусім іншыя структуры. Больш за тое, гэта парушае міжнародныя абавязацельствы Беларусі ў галіне свабоды выказвання меркаванняў.

У большасці выпадкаў пераслед творыцца ў адносінах да журналістаў, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам «Белсат», які ўваходзіць у структуру Польскага тэлебачання і пазіцыянуе сябе як беларускамоўны тэлеканал.

### Штрафы і пагрозы

Адной з галоўных праблем у сферы медыя сёлета быў крымінальны пераслед журналістаў і блогераў. Падставы выкарыстоўваліся самыя розныя. Нагадаем: 4 сакавіка суд Заводскага раёна Мінска прызнаў галоўнага рэдактара інтэрнэт-партала TUT.BY **Марыну Золатаву** вінаватай у тым, што яна як кіраўнік не прадухіліла парушэнне закона падначаленымі супрацоўнікамі, і пакараў яе штрафам у памеры 7650 беларускіх рублёў (каля 3800 долараў ЗША). Акрамя гэтага, суд спагнаў з яе на карысць БЕЛТА працэсуальныя выдаткі ў памеры 6000 рублёў (каля 2860 долараў).

Асуджэнне Марыны Золатавай стала фінальнай кропкай у рэзананснай "справе БЕЛТА", якая была заведзена летам 2018 года і суправаджалася вобыскамі ў рэдакцыях і на кватэрах журналістаў, затрыманнямі, крымінальнымі справамі, шматлікімі допытамі, судамі, штрафамі. Карацей, поўны пераслед. «Тое, як настойліва беларускія ўлады займаліся гэтай справай з самага пачатку, паказвае іх рашучасць знясіліць канкурэнтаў дзяржаўных СМІ», – заявілі «Рэпарцёры без межаў» пасля асуджэння галоўнага рэдактара буйнога партала.

У красавіку журналісцкую супольнасць чакала навіна пра тое, што ўпраўленне Следчага камітэта па г.Мінску праводзіць вобыск у памяшканні, якое выкарыстоўваюць у сваёй дзейнасці супрацоўнікі тэлеканала «Белсат». Афіцыйныя крыніцы тлумачылі, што працэс распачаўся ў рамках крымінальнай справы, заведзенай паводле факта распаўсюджвання паклёпу на сайце тэлеканала (ч.2 арт.188 КК).

Кіраўніцтва «Белсата» прытрымлівалася іншай пазіцыі: справа ў элементарнай памылцы, якая лёгка выпраўляецца.

«Памылку мы хутка выправілі, апублікавалі абвяржэнне, прынеслі прабачэнні генералу Андрэю Шведу, якога гэтая памылка тычылася. Следчы камітэт правёў праверку па гэтай справе і падстаў для крымінальнага пераследу не знайшоў. Аднак у студзені гэтага года мінская пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу з гэтай жа нагоды», – адзначала кіраўніцтва «Белсата».

У выніку вобыску, які працягваўся каля чатырох гадзін, былі канфіскаваны каля 10 носьбітаў інфармацыі, у тым ліку тры ноўтбукі і два жорсткія дыскі. Праз два дні, 11 красавіка, Следчы камітэт вярнуў супрацоўнікам «Белсата» тэхніку і носьбіты інфармацыі, якія былі адняты падчас вобыску.

Нельга пакінуць па-за ўвагай і факты пагроз, што таксама не ўпісваецца ў дэмакратычныя нормы. Дрэнна, калі журналіста караюць рублём, але нельга змірыцца і з сітуацыяй, калі яму пагражаюць расправай. Такія пагрозы атрымлівалі сёлета і блогеры, і журналісты. У прыватнасці, супрацоўніца «Зялёнага партала» (greenbelarus.info) **Наста Захарэвіч** атрымала паведамленні з абразамі і схаванай пагрозай у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте». Рэдакцыя партала звязала гэта з публікацыяй матэрыялаў пра будаўніцтва ў Брэсце акумулятарнага завода і пратэстамі эколагаў і жыхароў горада з гэтай нагоды.

Журналістка звярнулася ў міліцыю з патрабаваннем прыцягнуць аўтара пагроз да адміністрацыйнай адказнасці. Але ўпраўленне ўнутраных спраў Фрунзенскага раёна г.Мінска паведаміла, што асоба, якая пагражала Захарэвіч, не вызначана. Хутчэй за ўсё, ніхто і не спрабаваў вызначыць.

### Па-ранейшаму несвабодная

У штогадовым Індэксе свабоды прэсы міжнароднай арганізацыі «Рэпарцёры без межаў», апублікаваным у красавіку 2019 года, Беларусь заняла 153-е месца сярод 180 дзяржаў. Пры гэтым краіна паднялася на дзве пазіцыі ў параўнанні з папярэднім годам. Праўда, рэйтынгавае паляпшэнне эксперты тлумачаць тым фактам, што значна пагоршылася сітуацыя са свабодай медыя ў іншых краінах.

Міжнародная праваабарончая арганізацыя FreedomHouse у сваім Рэйтынгу свабоды ў свеце, як і раней, аднесла Рэспубліку Беларусь да ліку несвабодных краін (але не найгоршых). Пры гэтым, на думку экспертаў арганізацыі, ступень свабоды СМІ ў Беларусі ў 2018 годзе паменшылася да мінімальнай.

Камітэт абароны журналістаў (CPJ) уключыў Беларусь у рэйтынгавы ліст краін з найбольш жорсткай цэнзурай, размясціўшы яе на 9-м месцы.

**Вольга ХВОІН.**

Усе людзі роўныя перад законам і маюць права без усякага адрознення на роўную абарону закона. Усе людзі маюць права на роўную ахову ад якой бы там ні было дыскрымінацыі, што парушае гэту Дэкларацыю, і ад якога б там ні было падбухторвання да такой дыскрымінацыі.

***(З Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, артыкул 7)***

Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае выражэнне іх; гэта права ўключае свабоду бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных граніц.

***(З Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, артыкул 19)***

Кожны чалавек мае права на свабоду мірных сходаў і асацыяцый.

Ніхто не павінен прымушацца ўступаць у якую-небудзь асацыяцыю.

***(З Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, артыкул 20)***

ПРАБЛЕМА!

## Не прысуд і не падстава для дыскрымінацыі

*Пра жыццё ў Беларусі людзей "з асаблівасцямі"*

3 снежня адзначаўся Міжнародны дзень людзей з інваліднасцю. Для нашай краіны ён мае асаблівае значэнне. Сёння ў Беларусі пражываюць больш за паўмільёна чалавек з інваліднасцю – гэта больш, чым насельніцтва большасці беларускіх гарадоў, у тым ліку некаторых абласных цэнтраў.

У 2016 годзе Рэспубліка Беларусь ратыфікавала Міжнародную канвенцыю аб правах інвалідаў. Што змянілася з таго часу і што самае складанае ў аказанні дапамогі людзям з фізічнымі недахопамі?

***Пра гэта – гутарка з праваабаронцам, Сяргеем Драздоўскім, дырэктарам Офіса па правах людзей з інваліднасцю.***

**– Паводле статыстыкі, 15 працэнтаў людзей ва ўсім свеце маюць па той ці іншай прычыне інваліднасць. У Беларусі такіх асоб 5,7 працэнта ад усяго насельніцтва…**

– Па-першае, вялікую ролю адыгрываюць тыя крытэрыі, паводле якіх чалавеку надаецца статус інваліда. Міжнародная класіфікацыя, распрацаваная Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя яшчэ ў 2001 годзе, уключае ў сябе тры ацэнкі: першая – стан здароўя чалавека, другая – навакольныя бар'еры і трэцяя – праблемы ўключэння асобы ў сацыяльнае асяроддзе. Наша ж, айчынная, сістэма пабудавана на тым, што ўлічвае толькі першы фактар.

Я адзначыў бы і слабую эфектыўнасць нашай сістэмы сацыяльнай абароны. Даволі шмат людзей з яўнымі прыкметамі інваліднасці з-за бюракратычных перашкод не могуць дабіцца статусу інваліда. Сярод іх шмат хворых людзей сталага веку. Ім кажуць: навошта вам інваліднасць, вы ж і так атрымліваеце пенсію?

**– Ведаю, што за год у грамадскую прыёмную вашай арганізацыі звяртаюцца каля тысячы чалавек. З якімі пытаннямі прыходзяць людзі часцей за ўсё?**

– Найбольш актуальнымі сёння з'яўляюцца рэалізацыя права на працу, праблемы працаўладкавання, пытанні сацыяльнага забеспячэння. Вельмі часта людзей хвалююць жыллёвыя ўмовы, доступ інвалідаў да адукацыі, магчымасць апеpатыўна прайсці экспертызу. Да нас звяртаюцца і за прававымі кансультацыямі.

**– Вядома, што Офіс па правах людзей з інваліднасцю праводзіць маніторынг наконт таго, якое стаўленне да інвалідаў у грамадстве. Ці адбыліся ў гэтым плане нейкія змены пасля таго, як наша краіна ратыфікавала Міжнародную канвенцыю аб правах інвалідаў?**

– Мы, што прыемна адзначыць, фіксуем рост лаяльнасці, талерантнасці да гэтай катэгорыі грамадзян. З большай увагай у краіне пачалі ставіцца да тых асоб, якія маюць патрэбу ў атрыманні інклюзіўнай адукацыі. Многія дзеці з асаблівасцямі вучацца не ізалявана ад звычайных вучняў, сваіх аднагодкаў.

Але ёсць і іншыя факты. Напрыклад, на прадпрыемствах, ва ўстановах да інвалідаў больш лаяльнасці не стала.

Цікава, што нашмат лаяльней стаўленне грамадства да людзей з фізічнымі парушэннямі: да вазочнікаў, да тых, хто кульгае, кепска чуе, не бачыць і г.д. У той жа час не хапае чуйнасці да інвалідаў з псіхічнымі захворваннямі.

**– Інфармацыя псіхіятрычнай службы краіны сведчыць пра рост захворванняў ментальнай сферы. Яна сцвярджае, што занадта мала нашы грамадзяне надаюць увагі свайму псіхічнаму здароўю.**

– Але ж і дзяржава недастаткова займаецца прафілактыкай такіх хвароб. Калі чалавек трапіў да ўрача-псіхіятра, яго імкнуцца накіраваць у бальніцу для лячэння. Фактычна гэта тушэнне пажару, які ўжо распачаўся. А што рабіць, каб прадухіляць такія пажары? Каб да інваліднасці і нават лягчэйшых псіхічных расстройстваў не даходзіла? Гэта праблема. З прафілактыкай у нас, на жаль, кепска, таму і маем рост такіх захворванняў.

**– Што для вас самае складанае ў аказанні дапамогі людзям з інваліднасцю ў Беларусі?**

– Самае складанае – давесці да ўлад, што патрэбны іншы падыход. Мы жывём ва ўмовах патэрналісцкай мадэлі дапамогі інвалідам, якая грунтуецца выключна на прынцыпах медыцыны, разглядаецца ў ракурсе 20-, 30-гадовай даўніны і не ўлічвае таго, як змяняецца грамадства, якія змены адбываюцца ў свеце. Прыклад – сама экспертыза інваліднасці, якая базіруецца толькі на медыцыне. Пры гэтым не ўлічваюцца сацыяльныя фактары.

**– Вы і вашы калегі як эксперты працавалі над новым законапраектам "Аб правах інвалідаў і іх сацыяльнай інтэграцыі". У вашых высновах адзначаюцца станоўчыя моманты, але ў цэлым гаворыцца пра "радыкальнае пагаршэнне" заканадаўства. Што маецца на ўвазе і ці ёсць надзея на працяг канструктыўнага дыялогу з прадстаўнікамі ўлады?**

– Канечне, надзея заўжды ёсць. Мы ў сваёй ацэнцы кажам не столькі пра пагаршэнне, колькі пра ўпушчаныя магчымасці. Менавіта яны стануць наступствам прыняцця закона ў цяперашнім варыянце.

Мы далучыліся да міжнароднай канвенцыі, абвясцілі пра рэформу, але пакуль не здолелі яе паўнавартасна ажыццявіць. Закон застаецца на грунце медыцыны і сацыяльнай дапамогі. Гэта таксама вельмі важна. Але ўпускаюцца аспекты, звязаныя з абаронай правоў, мала ўтрымліваецца норм, якія абараняюць інвалідаў ад дыскрымінацыі. Але ж забарона дыскрымінацыі – гэта і ёсць асноўны пасыл Канвенцыі. Па гэткім шляху ідуць іншыя краіны: Аўстралія, Вялікабрытанія, Канада, ЗША.

Мэтай павінна быць выключэнне інваліднасці як фактару дыскрымінацыі чалавека.

Але хачу падкрэсліць: нішто не страчана. Зараз законапраект знаходзіцца ў Палаце прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь. У парламента цалкам хапае паўнамоцтваў для таго, каб усебакова і ўзважана разгледзець гэты праект. Са свайго боку мы гатовы расказваць, даказваць, тлумачыць любыя спрэчныя моманты. Спадзяюся, што нас пачуюць і зразумеюць. Бо нікому з грамадзян Беларусі не хочацца, каб яна станавілася краінай упушчаных магчымасцяў.

**Гутарыла Таццяна ЖДАНОВІЧ.**

ІХ ЛЁС

## Жыццё беларускіх ромаў: праўда без прыкрас

Дыскрымінацыя і этнічнае прафіляванне прадстаўнікоў ромскай этнічнай меншасці з'яўляюцца звычайнай з'явай у Беларусі, нягледзячы на тое, што Канстытуцыя краіны гарантуе роўнае права на абарону і роўнасць перад законам для ўсіх грамадзян краіны, незалежна ад іх этнічнай і іншай прыналежнасці. Сёлета ў маі ў Магілёве адбылася масавая зачыстка супольнасці ромаў, звязаная з расследаваннем забойства супрацоўніка ДАІ, лейтэнанта Яўгена Патаповіча. У першапачатковых заявах прадстаўнікі следчых органаў указвалі на магчымае дачыненне грамадзян рома да выкрадання і забойства супрацоўніка міліцыі. У рэшце рэшт, аднак, следчыя органы прыйшлі да высновы, што супрацоўнік ДАІ здзейсніў самагубства. Аблавы былі аднагалосна асуджаны беларускімі арганізацыямі грамадзянскай супольнасці і шэрагам высокапастаўленых чыноўнікаў, у тым ліку кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта Наталляй Качанавай, якая папрасіла прабачэння перад ромскай супольнасцю за інцыдэнт. Тым не менш расследаванне парушэнняў правоў чалавека, здзейсненых міліцыяй, было неэфектыўным.

Прадстаўніца беларускай праваабарончай арганізацыі даследавала жыццё ромаў праз удзел у адукацыйнай паездцы «Крытычны разгляд генацыду ромаў падчас нямецкай акупацыі ў гады Другой сусветнай вайны». Праект быў накіраваны на ўвядзенне ў гісторыю памяці фактаў генацыду ромаў. Цягам тыдня валанцёры з боку Германіі і Беларусі збіралі інтэрв'ю са сведкамі ваенных часоў, наведваючы іх па розных гарадах Беларусі. Акрамя гістарычных сведчанняў, германскі бок цікавіла і пытанне «антыцыганізму». Але інфармацыю пра гэта з вуснаў саміх ромаў атрымаць не так проста, гэта вельмі закрытая супольнасць. Калі ты незнаёмы з ромамі ці прыязджаеш да іх (а яны часта жывуць шчыльна адзін каля аднаго) без «павадыра», то пакантактаваць з імі будзе амаль немагчыма.

За ўвесь час было толькі адзінае інтэрв'ю, у якім прадстаўніца ромаў распавяла пра сваё цяжкае становішча і крытычна выказалася пра тыя дзеянні з боку прадстаўнікоў сілавых структур, якія праваабаронцы называюць «этнічным прафіляваннем». Гэта была Аксана са Слуцка. З яе слоў, «цыган не любяць» ні простыя грамадзяне, якія іх баяцца браць на працу, ні прадстаўнікі ўлады.

Многія ромы гандлююць на мясцовых базарах ці вакзалах альбо ездзяць па суседніх вёсках. Некаторыя мужчыны спрабуюць выехаць на заробкі ў Расію, але і там адыгрывае ролю падобнае да беларускага стаўленне да ромаў. Часта ромкі спрабуюць зарабіць на жыццё «традыцыйнымі» (і ўжо стэрэатыпнымі ў нашай свядомасці) рамёствамі: гаданнем ці жабрацтвам. З-за гэтага часта псуецца статыстыка правапарушэнняў ромамі (што падсілкоўвае стэрэатып пра «цыганскі крымінал»), бо ёсць адміністрацыйная адказнасць за «прыставанне да грамадзян».

Ромскія дзеці ходзяць у школу па месцы жыхарства. Але сціплыя ўмовы жыцця накладаюць адбітак і на атрыманне адукацыі. З-за неадукаванасці не ўсе ромы маюць пашпарты. Акрамя пашпартоў у некаторых людзей няма дакументаў на хату і нават пасведчанняў аб нараджэнні. Бо ёсць і тыя, хто нараджае дзяцей па-за медыцынай. Калі няма пашпартоў, то і атрымаць медыцынскае абслугоўванне цяжка.

У ромаў вельмі складаныя адносіны з міліцыяй. У абароне правоў такая сітуацыя мае назву «этнічнае прафіляванне». Пра адну з яго праяў распавяла Аксана – калі на вакзале падыходзяць толькі да ромаў, каб высветліць асобу. Падаецца, што міліцыянты занадта старанна высвятляюць асобу. Ужо неаднойчы ўзгаданая сітуацыя ў Магілёве паўплывала і на тое, што ў ромаў прымусова зноў бралі адбіткі пальцаў.

*«О, гэта ўжо пагалоскай стала – гэтыя адбіткі пальцаў! Да гомельскіх ромаў прыходзілі іх здымаць, а на заўвагу «Мы ж ужо здавалі!» міліцыянты адказвалі: «А ў нас сцерліся». Але як яны могуць сцерціся? Гэта ж дактыласкапічная карта!* – наракае праваабаронца. – *У іх толькі б нагода была запужаць чарговы раз ды мець падставу зайсці ў хату (з прычыны здымання адбіткаў)».*

Але адбіткі – гэта яшчэ не ўсё. У дачыненні да ромаў улік вядзецца яшчэ больш пашырана: збіраецца біялагічны матэрыял ДНК і нават запісваецца голас у адмысловую базу.

А як усё выправіць?

Хоць Алесь Яўсеенка шмат часу правёў з ромамі і нібы ведае пра ўсе іх праблемы знутры, ён не можа дакладна адказаць на гэтае пытанне. Бо ўсё чапляецца адно за адно: неадукаванасць прыводзіць да беднасці, а магчыма, і «крыміналу», што ў сваю чаргу спрыяе неадукаванасці. Ромы знаходзяцца пад ціскам з боку міліцыі, але не могуць пазмагацца з гэтым, бо адчуюць яшчэ больш моцны ціск. І як разарваць гэтае кола?

Алесь мяркуе, што тут патрэбны сумесныя намаганні праваабаронцаў разам з уладамі. Пакуль што мы гэтага не бачым. І калі для СМІ ўлады не выказваюцца дрэнна пра ромаў, «насамрэч яны ўсё гэта маюць на ўвазе».

І, канешне, патрэбна змена ў стаўленні да ромаў з боку звычайных людзей: тых, хто, напрыклад, у якасці працадаўцаў баіцца браць ромаў на працу, і тых, хто мае нейкія непарушныя стэрэатыпы ў дачыненні да іх.

*«Нельга ж так ставіцца да ромаў, бо яны ж таксама грамадзяне Рэспублікі Беларусь… У іх у пашпартах не напісана, якая ў іх нацыянальнасць, няма ўжо гэтай графы савецкага часу. Дык навошта мы так ставімся да сваіх суайчыннікаў? Няўжо камусьці будзе добра ад таго, што іх культура ў нас знікне?..»*

**Кацярына АБРОМЧЫК.**

Кожны чалавек мае абавязкі перад грамадствам, у якім толькі і магчыма свабоднае і поўнае развіццё яго асобы.

Пры ажыццяўленні сваіх правоў і свабод кожны чалавек павінен спазнаць толькі такія абмежаванні, якія ўстаноўлены законам выключна з мэтай забеспячэння належнага прызнання і павагі правоў і свабод другіх і задавальнення справядлівых патрабаванняў маралі, грамадскага парадку і агульнага дабрабыту ў дэмакратычным грамадстве.

Ажыццяўленне гэтых правоў і свабод ні ў якім разе не павінна супярэчыць мэтам і прынцыпам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

***(З Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, артыкул 29)***

